Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару 15 гр.

№ 3 (23). Вільня, чэцьвер 23 мая 1929 г. Год III.

РЭДАКЦЫЯ й АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . 3 зал.
„ паўгоду . . 1 50 гр.
на 3 месяцы . . 75 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.

ЦАНА АБЕСТАК:
паводле
ўмовы з адміністрацыяй.

Выходзе 2 разы у месяц.

Сьв. П.

## Ян Тарчэўскі.

29-га сакавіка сёлета памёр Ян Тарчэўскі з Асінаўкі пад Ашмяной. Памёр яшчэ ў маладым веку, маючы толькі 46 год; захварэў двойчы на запаленьне лёгкіх, просьле чаго схапілі пасьпешныя сухоты і за некалькі дзён згас у бальніцы ў Ашмяне.

Нябошчык Ян Тарчэўскі належа да першых беларускіх адраджэнцаў; ад 1905 году ён стаяў на варце беларускіх гонеў як заўсёды сьвядомы рабачай у беларускім руху. Як сьвядомага Беларуса й дзеяча знаў Я. Тарчэўскага ўвесь Ашмянскі павет разам із утвораным нядаўна паветам Валожынскім; але знала яго й шыршае беларускае грамадзянства. З асобных мамэнтаў працы Я. Тарчэўскага ўспомнім некалькі нядаўніх. Гэтак асабліва карыснай была ягоная праца беларуская ў Ашмяне ў 1920 г., калі там былі бальшавікі і калі некаторыя іншыя Беларусы ад іх прымушаны былі хавацца; знаходзілі яны схоў і ў самога Я. Тарчэўскага. У тым-жа 1920 і 21 годзе Я. Тарчэўскі загадуе Беларускай Кнігарняй у Ашмяне (была ля Жупранскай вул.), закладзенай Я. Станкевічам. У яго тады ў Кнігарні знаходзіла гасьцінны прыпынак беларускае вучыцелства цяперашніх Ашмянскага, Валожынскага і часткава Маладэчанскага павету. Вучыцелства гэтае прыяжджала ў розных справах да школьнага інспэктара, паміж іншым такжа па свой запрацаваны грош, каторы школьны інспэктар ня выплачаваў акуратна і наагул нягодна адносіўся да беларускага вучыцелства, як і да беларускіх школаў. У гэтым-жа часе ён ёсьць сябром Беларускай Народнай Партыі, папярэдніцы, цяперашняй Беларускай Сялянскай Партыі. У 1928 і 1929 г.г. ён падзьдзержуе Беларускі Гаспадарскі Зьвяз у Ашмяне, будучы ягоным сябром, і Беларускаю Кнігарню ў Ашмяне, закладзенаю Зьвязам у 1928 г.

Нябошчык Я. Тарчэўскі быў чуткі на людзкое гора, патрэбы, рад быў кожнаму памагчы ў бядзе.

Сьмерць Я. Тарчэўскага — гэта вялікая шкода для беларускай справы ў Ашмянскім павеце. Няма дзіва, што за дамавінай ягонай (хавалі 2 красавіка) ішла цэлая працэсыя ягоных сяброў, прыяцелеў і знаёмых. Ад Беларускага Гаспадарскага Зьвязу быў паложаны на магілў Я. Тарчэўскага вялікі вянок з надпісам „Сябру-Патрыёту Яну Тарчэўскаму ад Беларускага Гаспадарскага Зьвязу“. Надпіс на крыжы так сама зроблены пабеларуску. Пахавалі Я. Тарчэўскага на ашмянскім могільніку. Просьле жалобных песьнеў над сьвежай магілай былі сказаны прамовы. Грам. Міхал Галяс сказаў прамову ад Беларускага Гаспадарскага Зьвязу; ён падчыркнуў у сваёй прамове працу Я. Тарчэўскага як беларускага грамадзяніна, прыяцеля й суседа. Пасол др. Я. Станкевіч сказаў гэт‘каю прамову:

„Паважаныя сябры й грамадзяне! мы спраўляем сягодня жалобнаю ўрачыстасьць: пахавалі дарагога чалавека дарагога ня толькі нам, але таксама ўсяму нашаму беларускаму Народу, усёй нашай Бацькаўшчыне Беларусі. Каго-ж запраўды мы пахавалі? У Евангельлі кажацца, што няма лепшай любасьці, як тая, калі чалавек душу сваю аддасьць за бліжніх сваіх. „Душу сваю“— гэта значыцца жыцьцё сваё аддасьць за бліжніх сваіх. Бліжнімі нашымі ўсе людзі, але бліжшымі бліжнімі ёсьць наш народ. Дык жэ нябошчык Ян Тарчэўскі быў тым чалавекам, каторы жыцьцё сваё пасьвяціў на працу дзеля свайго Народу ўпорна й безупынку на працягу блізка 30-ёх год. І трэба адцеміць, што праца гэтая была ня ў тыя часы, калі наш народ быў магутны й слаўны, калі аб ім ведаў і лічыўся зь ім увесь сьвет, але тады, калі гэты народ упаў, быў пакрыўджаны й паняволены, калі дурань і нягоднік зьдзекаваўся над гэтым народам, калі навет сам народ пачаў чурацца й стыдацца самога сябе. У тым, што ён працаваў для свайго народу у найцяжшаю часіну для гэтага народу, вялікшая заслуга сьв. памяці Яна Тарчэўскага.

Любоў бліжняга павінна выражацца ў добрых учынках на карысьць нашых бліжніх, а працуючы для свайго народу, мы гэтым самым працуем для ўсяе людзкасьці, тым балей, што пакрыўджаны й паняволены народ найбалей патрабуе працы й любові для сябе. Дык пасьвяціўшы сябе свайму народу, нябожчык гэтым самым споўніў Божы загад любові бліжняга і гэта яму бяссумлеву залічыцца такжа на тым сьвеце.

За гэтаю любоў і працу наш народ памяць аб нябожчыку вячне захавае ў сэрцы сваім“.

Просьле пахову Беларускі Гаспадарскі Зьвяз арганізаваў жалобнаю акадэмію ў залі Народнага Тэатру ў Ашмяне.

На Акадэміі сказаў харошаю прамову, пранікнутаю гарачым пачуцьцём грам. Міхал Галяс, а др. Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму:

„Гісторыя народу, для каторага пасьвяціў жыцьцё сьв. п. Ян Тарчэўскі“. Канчаючы навейшай парой гісторыі Беларусі, рэфэрэнт адзначыў учасьце ў Беларускім Адраджэньню вялікіх сыноў Ашмяншчыны (Пр. Багушэвіч) і закончыў ізноў успамінам аб дзейнасьці беларускай Я. Тарчэўскага. „Нябожчык Я. Тарчэўскі—сказаў рэфэрэнт—не змарнаваў вялікага скарбу любасьці свайго народу, скарбу ўложанага прыродай у душу кожнага чалавека, але гэты скарб разьвіў і ўдасканаліў. За гэта яму належыцца вялікая ўдзячнасьць ад цяпер і потым будучых“.

Народу на акадэміі была паўнюсенкая заля.

## Соймавая прамова пасла д-ра Я. Станкевіча пры чытаньні буджэту Міністэрства Асьветы й Вераў.

Высокі Сойме, стан беларускага школства за гэты год траха нічагусенькі не зьмяніўся. Аб яго катастрафічным палажэньню я гаманіў у мінулай сэсыі буджэтнай. Я сказаў тады, што запраўды беларускіх пачаткавых школаў нямашака. І гэтак далей астаецца, бо беларускія школы маюць адчыняцца на аснове языковых уставаў, наўмысьля дзеля таго прыгатаваных, каб беларускіх школаў ня было. Языковыя ўставы даюць магчымасьць адміністрацыі зусім іх не выпаўняць. І запраўды гэтыя ўставы не выпаўняюцца. Адносіны інспэктароў, а часткава й старастаў, да беларускіх школаў такія, што гэная ўстава астаецца вылучне на паперы. Ня буду вылічаць усіх паступкаў школьнай адміністрацыі робленых, каб не дапусьціць да адчыненьня беларускіх пачаткавых школаў; яны вельмі добра ведамы Сойму. Так сама адносіны ўлады да беларускіх прыватных школаў прынцыпіяльна благія. Мы мелі магчымасьць у некаторых мясцох старацца аб адчыненьню беларускіх прыватных школаў на кошт мясцовага насяленьня альбо арганізацыі. Вось-жа аказалася, што вельмі цяжка траха немагчыма, адчыніць навет прыватнаю пачат, каваю школу зь беларускаю моваю вучэньня з прычыны надзвычайных перашкодаў. Наўперад ня прыймаюць памяшчэньня пад школу, хоць-бы яно было лепшае, як у школах урадовых. Далей робяцца перашкоды пры зацьверджаньню вучыцялёў.

Што датычыцца сярэдніх школаў, дык толькі тое настала лепшае, што Беларуская Гімназыя ў Вільні дастала правы публічнасьці, але, на жаль вучыцельская сэмінарыя, каторай так патрабуем і каторай 3 мілёнпы беларускі народ у Польшчы дагэтуль ня мае, вучыцельская сэмінарыя не адчынена. На колькі можна судзіць з адносінаў улады да адчыненьня гэтае сэмінарыі, дык беларуская вучыцельская сэмінарыя можа быць адчынена за год, а можа й зусім ня быць адчынена. Замест сэмінарыі, пакуль што маюць быць курсы для будучых вучыцялёў беларускіх школаў, але гэныя курсы так сама няма ведама чаму маюць быць адчынены ў Кракаве, пры тым-жа на тых курсах, што дагэтуль былі ў Кракаве, беларуская мова й літаратура і наагул беларусаведа ня прыймаліся пад увагу; гэта курсы агульна-асьветныя і зусім няпрытарнаваныя да вымаганьнеў беларускага школства. Дзіўна, што й цяпер курсы будуць не на беларускіх землях, але ў Кракаве.

Што да вышшых школаў, дык іх зусім ня маем, навет няма выкладаў беларускае мовы й літаратуры у Віленскім ўнівэрсытэце. Беларускія студэнты мусяць вучыцца навукова беларускай мовы паводле таго, як выкладаюць у Пецярбурзе або Маскве.

Паважаныя панове, справа беларускага школства, як яна стаіць дагэтуль, компромітуе польскаю ўладу і польскае гаспадарства. Павіннасьцяй ёсьць яе паправіць. Чаму маўчаць тыя паслы Беларусы, што выбраны па польскіх сьпісках? Чаму маўчаць і паслы Палякі, выбраныя зь беларускіх землаў? (Голас на лавах „Пяста“: Няма землеў беларускіх, ёсьць землі польскія). Ёсьць землі беларускія, вашэці іх нямашака, а мне землі беларускія ёсьць і будуць. У часе выбараў Беспартыйны Блёк Супрацаўніцтва з Урадам абяцаў, што асабліва заапякуецца беларускім школствам. Цяпер аб гэтым няма зусім гутаркі.

Паўтараю: датуль ня будзе справядлівасьці беларускаму народу, датуль ня будзе разьвязана справа беларускага школства, пакуль існуюць дагэтулешнія языковыя ўставы, прынятыя дзеля таго, каб беларускіх школаў ня было. Дагэтулешняе палажэньне зусім немагчымае. Аб гэтым ведае грамадзянства зь беларускіх землеў. Нажаль, мне здаецца, што дагэтулешнія ўрады і наагул польскае грамадзянства далёка ад зразуменьня гэтае справы.

## Д‘ювэй радзе Польшчы абмежыць выдаткі на пашырэньне гаспадарсьцьвенай маемасьці і зьменшыць падаткі.

Амэрыканскі фінансавы райца ў Польшчы, Д‘ювэй зрабіў справаздачу аб польскай гаспадарцы за першаю чэцьверць сёлетняга году. Перш чымся гэная справаздача пакажацца цэлая ў друку, польская газэта „Express Poranny“ з дн. 7 мая сёл. надрукавала частку яе. За польскай газэтай і мы падамо гэтыя цікаўныя рады амэрыканскага эканомістага, з каторым прымушана лічыцца польская гаспадарская палітыка.

Інвэстыцыйнага капіталу ў новым польскім гаспадарсьцьве—піша Д'ювэй—траха ня было, а адзіны ўрад

**дзякуючы сваёй падаткавай уладзе**

маючы грошы, мусіў із помачай дастаных фундушаў аддаляць ня толькі сьляды зьнiстожаньнеў і пашыраць манаполі ды прадпрыемствы, дастаныя ў спадчыне пераважна па гаспадарствах, што падзялілі калісь даўнейшаю Польшчу, але й пазычаць беспасярэдне прыватным прадпрыемствам.

Гаспадарсьцьвеных даўгоў мае цяперака Польшча 460 міл. даляроў або каля

**15 даляроў на кожнага чалавека** (лічачы, ведама, жанок і дзяцей).

Агульная сума даўгарочных (даўгатэрміновых) пазыкаў за 10 год незалежнасьці Польшчы дайшла да 461 міл. 500 тысячаў даляраў.

Каб супакоіць найпільнейшыя патрэбы гаспадарскай адбудовы, урад мусіў разьвіваць падаткавую сыстэму так борзда, што некаторыя групы насяленьня звыш меры ападаткаваныя. Ад 1926 г. прыбытак у буджэце перавышаў выдаткі. Але

**развой гаспадарсьцьвенай гаспадаркі ладне выперадзіў рост гандлю, прамыслу й земляробства.**

З прычыны ваенных зьнiстажэньнеў Польшча асталася зь вельмі нестаючай колькасьцяй капіталаў, прамысловы й зваротны падатак праглынулі вялікаю часьць заробкавых прыбыткаў. У рэзультаце ў гандлі й прамысьле асталося недаволі запасаў, а нястача зваротных капіталаў такая вялікая, што найменшае зьменшаньне тэмпу звароткаў з прычынаў атмосфэрычных ці іншых прычыняе як га рост апротэстованых вэксалёў, падвышэньне процэнту і імкненьне да прадоўжаньня вэксальных тэрмінаў.

**Трывалкасьць запасу дэвізаў і золата**

нягледзячы на ад'емны білянс была магчымай толькі дзякуючы заграмічным пазыкам, каторых у 1928 г. прыйшло ў суме каля 272 міл. 500 тыс. зал. ды кароткарочным забавязаньням заграмічным, каторых, па адыйме заграмічных належнасьцеў, было нэтто каля 336 міл. зал. З гэтае сумы 259 міл. зал. платныя ў межах трох месяцаў або каротшых і калі-б іх усе аддаць, запасы золата й дэвізаў зьменшыліся-б да 59 проц., калі-б стан банкнотаў і як га платных забавязаньнеў астаўся бязь зьмены. Стан рэзэрваў Польскага Банку сьведча, праўда, аб сталасьці валюты, але адначасна паказуе ў як малой меры прамысл і гандаль мог карыстацца з крэдытнага запасу гаспадарства.

Нястачу зваротнага капіталу і запасаў у прамысьле адчувае ўсё гаспадарскае жыцьцё Польшчы, бо гандаль і прамысл змушаны звыш меры карыстацца банкавымі пазыкамі. Расьце тады вышыня процэнтаў і павялічуюцца гандлёвыя кошты ня толькі ў прамысьле, але так сама і ў земляробстве.

Далей Д'ювэй радзе, каб пры ўкладаньню буджэтаў асобныя міністэрствы разглядалі інвэстыцыйныя пазыцыі не з таго гледзішча, *што* можа быць спаўнена гаспадарствам, але што ёсьць канечне патрэбнае дзеля агульнага дабра. Як прыклад можна ўзяць зялезныя дарогі. Чыстыя прыбыткі зялезных дарогаў за апошні скарбовы год быў 20 міл. даляроў із гакам, з чаго большасьць аддадзена на інвэстыцыі. У будучыні было-б правільным, каб пераліваць гэты

**чысты прыбытак у вагульныя прыбыткі гаспадарства,**

а на пакрыцьцё дадаткавых інвэстыцыеў зялезнадарожных пазычаць на сусьветным рынку, бо гэткім спосабам цяжары зьвязаныя з пазыкаю, зробленаю на 30—35 год, абцяжваць будуць дарогай амортызацыйных сплатаў і будучыя пакаленьні, каторыя аднолькава зь цяперашнімі будуць карыстацца з услугаў гэтых дарогаў.

**Абмежаньні ў урадовай палітыцы інвэстыцыйнай**

зьменшылі-б патрэбы ўраду ў прыбытках і дазволілі-б папраівць падаткавую сыстэму. Ё, праўда, пагляд, што калі ўрад абмежыць сваё інвэстыцыі, настане рост безрабоцьца. Сталася-б запраўды так, каб ня зьменшыць падаткаў. Але ў усіх гаспадарствах устаноўлена, што зьменшаньне падаткаў гэтак памагае развою прамыслу і прыватнай ініцыятывы, што безрабоцьце борзда зьмяншаецца, тады як наадварот вялікія падаткі прычыняюць гаспадарскі сьціск і павялічаюць гэтае зло.

Напасьледак Д'ювэй радзе

**прысьпяшыць рэформу падаткавай сыстэмы.**

Прыкл. зваротны падатак абцяжвае вельмі прамысл і гандаль і выглядае несправядлівым. Памалу разьвіваецца падатак ад чыстага прыбытку.

*Ад Рэдакцыі*: Калі польскі ўрад згодзіцца з гэтымі радамі Д'ювэевымі, дык зьменшацца інвэстыцыі і зьменшыцца падатак ад прамыслу й гандлю, але падатак із зямлі яшчэ можа быць павялічаны, бо Д'ювэй, выходзячы з разьвітага амэрыканскага земляробства, не разьбіраецца ў нашым земляробстве асталым.

## Учасьце Беларусаў, Ліцьвінаў і Украінцаў на апошнім Агульным Сходзе Братняе Помачы пры Віленскім Унівэрсытэце.

„Братняя Помач Польскай Акадэмічнай Моладзі пры У. С. Б. ў Вільні“ ёсьць інстытуцыяй узаемнае помачы, да якой належаць, з выняткам Жыдоў, усе студэнты віленскага ўнівэрсытэту, у гэтай лічбе Беларусы, Ліцьвіны й Украінцы. З другога боку, назоў арганізацыі як „польскай“ ёсьць у супярэчнасьці із станам фактычным і крыўдзіць моцна апошніх. Восьжа, каб усьцерагчыся ад гэтага, студэнскія зьвязы: беларускі, літоўскі й украінскі падалі Ўраду „Братняе Помачы“ прапазыцыю з дамаганьням выкінуць назоў „польскі“, якая (прапазыцыя) і была пастаўлена на парадку дня агульнае надзвычайнае зборкі „Братняе Помачы“ дня 9 мая сёл. Тыя, што падалі гэтаю прапазыцыю верылі, што польскае студэнства віленскага ўнівэрсытэту пойдзе на сустрэчу іхнім дамаганьнем, каторыя ў сваёй істоце былі зусім справядлівыя. Аднак аказалася зусім наадварот. Падчас сходу студэнт права, а адначасна старшыня Кола Праўнікаў, Турла падаў прапазыцыю аб зьняцьці з парадку дня прапазыцыю меншасьцяў у справе вышуспомненых зьменаў статуту, якая і была прынята 598 галасамі, процiў 269. У выніку ўсяго гэтага студэнты Беларусы, Ліцьвіны й Украінцы на знак протэсту пакінулі залю зборкі.

Што прапазыцыя няпольсхіх студэнтаў была сходам адкінута—гэта зусім прыроднае цяпер зьявішча з боку польскага студэнства, якое ў пераважнай большасьці настроена шовіністычна адносна ня-

Ул. Ст. РЭЙМОНТ.

# АБАРОНА ЗЯМЛІ

(Глянь № 1 (21) „Нороду“).

Тыя дні ад Божага Цела да нядзелі не прайшлі лёгка Мацею, Рыгору й іхнім сябром,—бо Мацей перарваў работу ля Сталюковай хаты, а іншыя таксама пакінулі свае заняткі і цэлымі днямі й вечарамі хадзілі па хатах паасобку і падвучалі народ проці Немцаў, заклікаючы прагнаць іх із Падлесься.

Карчмар із свайго боку не шкадаваў намоваў, а як трэба было на ўпорных, дык і частаваў і на павер даваў, але справа не скранулася зь месца; старшыя скрабалі патыліцы, уздыхалі цяжка і, не адважаючыся на жадны бок, азіраліся на іншых і на жанок, каторыя, як адна, ані слухаць не хацелі аб выступленьню проці Немцаў.

— Але! што ім удум прыйшло! Мала яшчэ стратаў із прычыны лесу?.. яшчэ аднаго не адседзілі, а на новаю адседку хочуць зарабіць!—крычэлі, а Старасьціха, звычайна ціхая, ажно з памялом кінулася на Рыгора.

— Як будзеш прынукаць да новага бунту, дык стражнікам удам! Гультаі, рабіць ім ня хочацца, адно праходжаваліся-б—раскрычэлася перад хатай.

А Балцарчыха крыкнула на Мацея:

— Сабакі на вас паспушчаю, дзяньгубы! Вару прыгатую!

Усе станоўка былі проці намоваў, глухія на выясьненьні й просьбы, ані прыступіцца было да іхняга розуму; закрычэлі кожнага, а не адна ўжо й загаласіла.

— Ня пушчу свайго! За вопратку ўчаплюся, а хоць-бы мне ногі абрэзалі, а ня пушчу!.. Даволі мы ўжо набядаваліся!..

— А каб вас, сьлепанды, маланка спаліла! — кляў Мацей. Бы сарокі на дождж крычаць і крычаць. Гэта-ж цялё барждждэй зразумее людзкую мову, як баба разумнае слова! — лаіўся, глыбака зьбезахвочаны.

— Пакінь, Рыгору, ім ня ўмовіш, трэба кожнаю набіць або каб твая была, то тады цябе можа паслухае—жаліўся смутне.

— Такія яны ўжо, што сілком із імі нічога ня зробіш: начай трэба падыйсьці; не пярэчыць, быццам згаджацца, а памалу на свой бок перацягаваць.

Выясьняў гэтак Рыгор, не адступаючы ад справы, бо хоць сам быў спачатку проці, але як адно разважыў, што начай немагчыма, усёй душой ёй аддаўся.

Дзяцюк ён быў цьвёрды, упорны, а за што адно возьмецца, мусіць дапяць, хоць-бы там няма ведама што перашкаджала; гэтак і цяпер на нішто не зважаў: зачынялі яму дзьверы перад носам — пераз вокны гутарыў; жанкі яго пастрашалі—не злаваўся, калі было трэба—згаджаўся, у іншай аб дзяцёх папытаўся і парадкі пахваліў, ажно, напасьледак сказаў сваё, не ўдалося—ішоў далей. Цэлыя два дні поўна яго было на сяле, у хатах, па гародах, у палі навет ішоў і, загаваруючы зь людзьмі аб тым і сім, сваё ім даводзіў, а тым, што не адразу цемілі, кійком рысаваў па зямлі падлескія палі, паказаваў дзялянкі і цярпліве выясьняў карысьці кожнага.

Але дарма былі-б усе іхнія стараньні, каб ня помач Рохава. Неяк у сыботу па палудні, зразумеўшы, што сяла не скрануць, пазвалі яны Роха*) ў чуню Барынаву і прызналіся яму: баяліся, што ім будзе праціўны.

Але Рох падумаў каротка і кажа:

— Разбойніцкі гэта спосаб, але як на іншы няма ўжо калі, дык памагу вам ахвотна.

І зараз пайшоў на гароды да пробаршча, сядзячага ля парабка, косячага канюшыну, каторы потым расказаваў, як зразу ксёндз зазлаваўся на Роха, крычэў затыкаў вушы і слухаць навет не хацеў, але потым селі абодва на мяжы і доўга аб чымсь радзіліся. Відаць Рох яго пераканаў, бо зьмярканьням, калі людзі пачалі варочацца з палёў, пробаршч пайшоў на сяло і, быццам праходжуючыся, заглядаў у сялібы, пытаўся аб гаспадарцы, а галоўна із жанкамі гаманіў а, напасьледак, кожнаму асобна й ціха казаў:

— Дзяцюкі дабра хочуць. Трэба сьпяшацца, пакуль яшчэ пара. Зрабеце сваё, дык я ўжо паеду да пана і буду яго ўмаўляць.

Просьле гэтага жанкі ўжо не працівіліся, а гаспадары пачалі выводзіць, што калі ксёндз заахвочуе, дык значыцца варта гэтак зрабіць.

Яшчэ ўвесь вечар радзіліся, але ўжо нараніцы ў нядзелю ўсе згадзіліся на адно.

Маніліся ісьці па вешпары ды з Рохам на чале, каб мог гаманіці із Немцамі паіхняму.

Дыкжэ гэта цяпер Рох абяцаў дзяцюком; яны адыйшлі, пакрыкуючы радасна; ён сядзеў на Барынавым ганку, перабіраючы зярняты ражанца і штось думаючы.

Каваль стаяў ля ганку і загаманіў голасна да Роха:

— Мацей расказуе, што іх павядзіцё на Немцаў...

— Прасілі, дык і пайду зь імі да сусядоў — сказаў з націскам.

— Новаю турму сабе гатуюць. Абласаваліся мужыкі на пану і думаюць, што як ізноў пойдуць грумадой, зь кіямі й крыкам, дык Немцы спалохаюцца і Падлесься ня купяць.

Ледзь ён узьдзержаваўся ад злосьці.

*) Рох — набожны й грамадзкі чалавек у повесьці Рэймантавай, меў ён вялікі ўплыў у сяле.

польскага студэнства, але тыя мэтоды, якія ўжывае так званая моладзь „ўшэхпольская“ ў змаганьні з сваімі праціўнікамі, прымушаюць кожнага інтэлігентнага чалавека моцна задумацца.

Усе, якія толькі ёсьць спосабы дэмагогіі былі выкарыстаны проці няпольскага студэнства, што пакідае за сабой вельмі няпрыемнае ўражаньне, якое дасканальна сьведчыць аб культурнай роўні эндэцкае студэнскае моладзі. Калі ад імя няпольскага студэнства выступіў з моваю ст. Я. Занюк, то яму дзікім крыкам не далі гаварыць.

Трэба зазначыць, што польскае дэмократычнае студэнства ў сувязі з прапазыцыяй Беларусаў, Ліцьвінаў і Украінцаў, выставіла так-жа і сваю компрамісную прапазыцыю аб зьмене статуту, на моцы якой слова „польскі“ ў назове арганізацыі тлумачылася-б у значэньні дзяржаўным, а не нацыянальным. Характэрна тое, што гэтаю прапазыцыю студэнтаў дэмократаў эндэцкае студэнства прызнала за ідэнтычнаю з прапазыцыяй меншасьці.

У выніку ўсяго гэтага ў бок дэмократычнага студэнства польскага, як і да студэнства няпольскага, сыпаліся з залі галасы: здраднікі, правакатары, комуністы і д. г. п. Адным словам польскае эндэцкае студэнства паказала сваё запраўднае абліча, нягоднае звання акадэміка. Навет гарачы прыхільнік эндэцыі проф. прорэктар Пігонь, прадстаўнік універсытэцкага Сэнату на сходзе, у канцы зазначыў, што „ўшэхпольская“ моладзь змагалася некультурнымі мэтодамі.

Вельмі несмачное выклікала ўражаньне захаваньне на сходзе клерыкаў, будучых „душпастыраў“, якія ў вадзін голас з эндэкамі вялі кацячаю музыку. Водгукі паступкаў польскага эндэцкага студэнства знайшлі свой водгалас на старонках віленскае прэсы, якая поўная абурэньня, за выняткам „Dzieńnika Wilenskiego“ падала больш менш праўдзівы стан рэчаў. Навет монархістычнае „Słowo“ з дня 11. V. 29, даючы справаздачу аб зборцы „Братняе Помачы“, абураецца на дзікія паступкі эндэцкага студэнства, якія былі пазбаўлены найменшае інтэлігенцыі, а адносна няпольскага студэнства зазначае, што „захаваньне Беларусаў, Ліцьвіноў і Украінцаў было войстрым контрастам з шовіністычнымі выбрыкамі моладзі „ўшэхпольскай“ сваёй мэрнасьцю і добраю воляю“.

Адным словам прыходзіцца зазначыць, што эндэцкая акадэмічная моладзь зьяўляецца на вельмі нізкой роўні інтэлігенцыі, няма ў яе усіх тых вартасьцяў, якія ляжаць у васнове культурнага грамадзянства і трэба дадаць, што гэтая моладзь у будучыні будзе кіраваць грамадзка-палітычным жыцьцём Польшчы. Чаго нам Беларусам ад гэтага спадзявацца — зусім ясна, бо толькі тых ненармальных умоў жыцьця, у якіх мы знаходзімся сягодня. *Студэнт.*

## Польскае вучыцелства у Заходняй Беларусі і галадаючыя.

Бацькі школьных дзяцей зь в. Сывараткі, Пастарыне, Андрэеўцы 1-ыя і Андрэеўцы 2-ія Жойдзішнай вол. Вялейскага пав. падалі школьнаму куратару і пав. старасьце скаргу на вучыцеля-Паляка польскай школы ў Сываратках, Мікалая Старасьцінскага. Вось гэтая заява-скарга:

„У чысты чэцьвер, перад Вялікаднем вучыцель Сываратцкай школы, Жойдзішнай вол. забраў нас у школу і выясьніў, што дастаў грошы на 16 найбяднейшых дзяцей, каторым ён будзе даваць у школе абеды, вартасьці па 30 грашоў. Мы выбралі людзей дзеля дастаньня ад яго еміны і раздаваньня дзяцём, але выбраным асобам: Юрку Савіцкаму і Юльяну Будрылку зь в. Сываратк, Пранцішу Разынскаму з Пастарыня, Пётру Нарущо з Андрэеўцаў 2 і Язэпу Драгуну з Працут, вучыцель жаднага наказу не пасылаў, а раздаваў сам, не наказуючы нікому—хлеб чорны й сітні ды паранага малака кубачак.

„20-га красавіка з дазваленьня войта забраліся мы прасіць вучыцеля, каб завесьці парадак такі, як і ў іншых школах нашае воласьці дзе раздаюць выбраныя асобы і ўсім дзяцём, ходзячым у школу. Але як зьвярнуліся да вучыцеля, дык ён сказаў: „Wy nie chcieli, i nic wam nie dam, dla chamów pracować nie będę“. А калі сказаў тут адзін із бацькоў: „Чаму пан вучыцель маніў, што даюць толькі на 16 дзяцей, калі належыцца ўсім дзяцём, бо сярод нас няма багатых“, дык ён ускочыў із крэсла, падскочыў да Градзіцкага Мікалая і крыкнуў (папольску): „Я цябе маю права застрэліць, бо я польскі ахвіцэр!“ пры гэтым улажыў руку ў кішаню, быццам дастаючы леварвэр. Зараз па гэтым вучыцель пайшоў із школы і тым нашая зборка скончылася.

„Гэты вучыцель летась дастаў ад Яна Буйноўскага із засьценку Чорная Лужа пуд пітляванай мукі за тое, што яго дзеці будуць звольнены ўвесь год ад школы; і запраўды дзеці Буйноўскага не хадзілі цэлы год у школу. Шмат хто даваў вучыцелю лапаны (хабары) за нехаджэньне сваіх дзяцей у школу, але не заяўляюць, бо баяцца „ахвіцэра-вучыцеля“, з каторым нам цяжка справіцца.

„Вучыцель абходзіцца зь людзьмі вельмі блага, навет бярэ за каўнер, выкідае із школы за тое, што не падпісаў таго, што ён хоча, як гэта было зь Мячыславам Бавіцэвічам у чысты чэцьвер, каторы не хацеў падпісаць яго пратаколу аб тым, што дзеці не патрабуюць дакармленьня“.

Гаспадары ў канцы свае заявы просяць старасту распарадзіцца так, каб яны „ня былі загавяныя вучыцелям“ і каб замест ахвіцэра ім быў назначаны вучыцель звычайны, каторы-бы „патрапіў абходзіцца зь людзьмі палюдзку“.

Пад заявай падпісаліся 39 чалавекаў—гаспадароў.

Пры нашых варунках ня можа быць пэўнасьці, што справядлівыя дамаганьні бацькоў будуць здаволены.

З гэтае заявы мы такжа лішні раз даведаваемся, якія благія адносіны паміж польскім вучыцелствам і насяленьням, каторае зусім гэтаму вучыцелству ня верыць.

Справядліва пасол др. Я. Станкевіч выступаў у вайводзтве проці таго, каб вучыцелства прыймала ўчасьце ў разьдзеле еміны паміж галадаючымі. Тады на яго за гэта абурыўся вайвода і вайводзкія ўраднікі, хоць за пара дзён перад тым монархічная польская газэта „Slowo“ яшчэ гарэй характарызэвала польскае вучыцелства ў нас.

## Беларускі Гаспадарскі Зьвяз.

### Тэатр Беларускага Гаспадарскага Зьвязу ў Валожыне.

У Валожыне арганізаваўся пакуль што аматарскі тэатр Бел. Гасп. Зьвязу. Тэатр зрабіў ужо некалькі прадстаўленьнеў: 3. III. ў школе Бел. Гасп. Зьвязу ў Панізьзі, адзін раз у Забалаці, двойчы ў Валожыне і інш. Гуляюць у тэатры ўсе мясцовыя пад кіраўніцтвам грам. Лявона Чабая, а пайменна: Лявон Чабай (ён-жа кіраўнік тэатру), Міхал Шакун, Пётра Рэвут, Юрка Барыс, Зоя Станілевічанка, В. Журкевічанка, Ксеня Астаповічанка, Пётра Мамонька, Ганна Гішман, Вера Наквасішка і інш. Артысты гулялі вельмі добра.

З п‘есаў гулялі: „Паўлінку“, „Заручыны Паўлінкі“, „Пасланец“, „Конскі патрэт“, „Зьбянтэжаны Саўка“, „На вёсцы“.

— А можа й выракуцца куплі, хто ведае?..

— Пэўне! зямлю памералі, усе сем‘і ўжо прыехалі, студні капаюць, каменьне на падмуроўкі звозяць...

— Ведаю добра, што ў натаруса яшчэ ўмовы не падпісалі.

— Мне бажыліся, што ўжо па ўсім.

— Кажу, што ведаю, і калі-б пан знайшоў лепшых купцоў..

— Дык-жа Ліпцы ня купяць, ні ў кога грошы не залежыліся...

— Рыгор штось мяркуе і здаецца мне...

— Рыгор!—перабіў ён раптам — Рыгор усюды лезе, але ён дурны, народ бунтуе і адно да ліха вядзе...

— Пабачым, як гэта выйдзе, пабачым!—казаў Рох, усьміхаючыся крыху, бо каваль ажно рваў сабе вусы за злосьці.

Маніласяісьці калькінанцаць гаспадароў і найлепшых дзяцюкоў, хоць адразу ўся вёска напіралася ісьці, як тады ў лес.

Забраліся, чакаючы зь нецярплівасьцяй нестаючых.

Як усе забраліся, Рох павёў вачыма па людзёх, перахрысьціўся й крыкнуў:

— Пара ўжо! хадзема ў імя Божае!

Ен пайшоў наперад а за ім мужыкі павалілі на сярэдзіну дарогі, ззаду цягнулася крыху жанок і дзяцей.

Гарачыня ўжо прайшла, сонца спушчалася да лесу, неба было пагодлівае й яснае, а паветра такое прасьветнае, што навет дальшыя вёскі відаць былі, як на далані; у зяленіве бароў вокам можна было адрозьніць жоўтыя пні хвоеў, белыя бярозы і шэрыя, вялізарныя дубы.

Жанчыны асталіся за млыном, а мужыкі йшлі памалу пад узгор‘е. Пыл падыймаўся за імі, што адно напару забялела якаясь вопратка.

Ішлі моўчкі. Твары былі срогія, задзірыстыя а вочы глядзелі горда, няўступна.

Дзеля рызыкі білі напару аб зямлю дубовымі кіямі, а напару хтось і ў жменю плюнуў і пруціўся быццам гатуючыся скокнуць.

У парадку йшлі, бы за процэсыяй, бо калі каторому вырвалася якое слова, зараз сьціхаў пад сур‘ёзнымі паглядамі: не пара была на гаману, кожны сьціскаўся ў сабе і крапіўся.

На гранічных канцох пад крыжам прыселі крышку супачыць, але й цяпераka ніхто не аказаўся, вадзілі адно вачыма па сьвеце. Ліпецкія хаты ледзь відаць былі з-за садоў, залаты кумпал на касьцельнай вежы блішчэў у сонцы, як вокам кінуць зеляненіся палі, на пасьбішчу ля лесу хадзіў рассыпаўшыся статак, дым сінім цурком падыймаўся ля бору зь якогась агню, зьвінелі дзіцячыя пяяньні, а граньне дудкаў разьлягалася па ўсёй зямлі, пазорнай і радаснай, што не аднаму сэрца напоўнілася ціхім жалям і страхам, не адзін уздыхнуў цяжка і пазіраў трывожне на Падлесьсе...

— Хадзема, гэта-ж не аб дробязь ідзе!—падганяў Рох, добра разумеючы, што пачынаюць лішне разважаць.

Зьвярнулі проста да хвальваркавай сялібы, старой, зарослай травой дарогай, што быццам краскавая істужка ляжала сярод зялёнага збожжа; дрэннае жыта сінела ад васількоў, спозьненыя аўсы жаўцелі, прыпаленыя пшонкі чырванелі ад макаў, а бульба ледзь абыходзіла. Запушчэньне было відаць на кожным кроку.

— Чыста жыдоўская гаспадарка, ажно глядзець балюча—прагаманіў хтось.

— Найгоршы парабак і то ляпей зямлю робе!

— Бо другі, хоць і пан, а навет гэтай сьвятой зямлі не пашануе!

— Дое яе й дое, бы галодную карову, дык і няма дзіва, што спустошыцца.

Выйшлі на папар. Закапчоныя й зруйнаваныя зрубы будынкаў былі ўжо недалёка, спалены сад пачарнелымі шкілетамі дзераў, выцягненых балюча да неба, абступаў дворныя будынкі із запалымі стрэхамі і тырчачымі комінамі, а ля сьценаў, у слабых ценех памярцьвелых галінаў відаць быў груд*) людзёў. Гэта былі Немцы. Барылка піва стаяла на каменьню, хтось у парозе граў на флейце, а яны сядзелі, разваліўшыся на лаўках і траве, адно ў сарочках, зь піпкамі ў зубах, і пілі з гліняных кубкаў; дзеці гулялі каля дому, а побач пасьціліся вялікія каровы й коні.

Мусіць зглядзілі йдучых, бо пачалі ўставаць, прысланяць вочы далонямі, глядзець у іх бок і штось верашчэць, але якісь стары Немец закрычэў войстра, дык як га селі на месца супакойне, пацягуючы з куфлеў; флейта заграла яшчэ салодшаю мэлёдыю, жаўрукі зьвінелі траха над галавамі, а із збожжа сыпалася густое, нясьціхаючае пстрыканьне казельчыкаў і калі-не-калі вырываўся голас перапёлчын.

І хоць сухая зямля гудзела пад нагамі, а падкоўкі стукалі аб каменьне што раз бліжэй, Немцы ані паварушыліся, быццам нічога ня чуючы, адно цешачыся зь піва і тае саладзіві, якой пахла адвячоркавае паветра.

А мужыкі ўжо даходзілі; адно што раз цяжэй і памалей ішлі, зьдзержуючы сапеньне і сьціскаючы кіі, сэрцы забіліся, гарачая дрыготка варам аблівала крыжы, горлы засыхалі, але хрыбты пруціліся і распаленыя вочы горда ўглядаліся ў Немцаў, а з твараў, бы застыглых, біла срогая заўзятасьць і няўступлівая моц.

— Пахвалёны!—сказаў Рох панямецку, становячыся, а за ім паўколам стаў груд, ціснучыся й прыціскаючыся плячыма.

Немцы хорам адказалі, не ўстаючы зь месцаў.

---

*) Чарада, куча.

Для арганізацыі прадстаўленьнеў шмат палажыла працы Праўленьне Т-ва Б. Гасп. Зьвязу ў Валожыне, асабліва Мікалай Наквас, Міхал Шакун і Махнач.

Артысткі й артысты тэатру ў Валожыне ёсьць адначасна добрымі пяюнамі й пяюхамі, дык варта было-б пастарацца арганізаваць у Валожыне беларускі хор. Зь дзівам трэба адцеміць, што Валожынскае староства не дало дазваленьня на згуляньне п'есы „Модны шляхцюк" Каганца. Гэтак у нас модныя шляхцюкі карыстаюцца апекай адміністрацыі.

**Лекцыі.**

У вапошнім часе Др. Я. Станкевіч прачытаў у Валожыне 24. III. адну лекцыю на тэму: „Галоўныя эпохі ў гісторыі Беларускага Народу" і другую 11. IV. на тэму: „Значэньне беларускага руху". Народу было мноства.

Студэнт Станіслаў Станкевіч прачытаў у Ашмяне рэфэрат на тэму: „Гісторыя Беларускага Адраджэньня".

**Школа ў Панізьзі.**

Нягледзячы на ўсе перашкоды з боку Валожынскага школьнага інспэктара, беларуская прыватная школа Бел. Гасп. Зьвязу ў Панізьзі разьвіваецца вельмі добра. Хоць усе дазваленьні дастаны былі ажно ў палове школьнага году і заняткі пачаліся 15 лютага сёлета, але дзяцей у 4-х адзьдзелах 65. Было-б дзяцей удвая балей, калі-б скора не перасталі з прычыны позьняга часу прыймаць у школу.

У школе цяпер працуе вуч. М. Шакун і М. Станкевічанка. Апошняю інспэктар бяз жадных матываў спачатку адмовіўся зацьвердзіць, а потым зьмяніў сваю ранейшаю пастанову і зацьвердзіў.

Пажадана вельмі, каб і іншыя мясцовасьці пастараліся адчыніць у сябе беларускія прыватныя школы.

**Памяшчэньне пад школу ў Славенску, Валожынскага пав.** прынята адумысловай комісыяй Валожынскага староства. Комісыя ставіла да памяшчэньня надта вялікія вымаганьні; і пятай часьці няма такіх вымаганьнеў да памяшчэньняў пад школы ўрадовыя. На што гэтае ўсюды падчыркаваньне адміністрацыяй яе благіх адносінаў да беларускага насяленьня?

---

Адно той стары із сівой барадою ўстаў і, паблядзеўшы, вадзіў вачыма па грудзе (грамадзе).

Із справай мы да вас прыйшлі — пачаў Рох.

— Дык сядайце, аспадары, вы віджу зь Ліпцаў, ды памужуем*) пасуседзку! Ёган, Фрыц, лаўкі сусядом.

— Дзякуем, справа кароткая, дык пастаім.

— Ня можа быць кароткая, калі вы цэлым сялом прыйшлі!—загаманіў стары папольску.

— Бо ўсе аднолькава зацікаўлены.

— Яшчэ ўтрая гэтулькі асталося дома! — сказаў із націскам Рыгор.

— Вельмі з вас мы радыя, а калі вы прыйшлі першыя, дык можа піва з намі вып'еце... за суседзкаю згоду... Налеце, дзяцюкі...

— Лахчы сам! Які шчодры! Не на піва мы прыйшлі!—закрычэлі шпарчэйшыя.

Рох іх прыцішыў вачыма, а стары Немец сказаў цьвёрда:

— Ну, дык слухаем!

— Цішыня нарушылася, сапеньне і кароткае дыханьне пачуліся, Ліпчакі балей сьціснуліся, дрыжыкі прайшлі па ўсіх, а Немцы так сама станулі, як адзін, высунуліся напроці шчытным грудам і пачалі злымі вачмі ўглядацца ў мужыкоў, за барады сябе ірваць і штось сьціха мырматаць.

Жанчыны трывожне пазіралі пераз вокны, дзеці хаваліся па сенех, ды якіясь вялізныя рудыя сабакі бурчэлі пад сьценамі, а яны ладнаю часіну стаялі гэтак процi сябе ў глыбокай цішыні, бы стада бараноў, што ўжо вачмі крывава водзе, перабірае капытамі, пруціць хрыбты, лабы прыгінае і вось, здаецца, пусьціцца на сябе з рагамі, ажно Рох перарваў.

(Далей будзе).

---

*) Пагутарым.

# ДА НАШЫХ ЧЫТАРОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ.

Якісь час „Народ" ня выходзіў з прычыны нястачы грошаў на выданьне. Беларускія чытары здэмаралізаваныя партыйнай і асабістай грызьнёй у беларускім грамадзянстве, вельмі мала прысылаюць грошаў на падпіску, думаючы, што неяк Рэдакцыя будзе выдаваць газэту й бязь іхняй помачы.

Але аказуецца, што без падпіскі і наагул бяз помачы з боку грамадзянства выдаваць немагчыма. Ужо ладны час як у Заходняй Беларусі няма ані воднай беларускай газэты кірыліцай. Гэта чысты скандал і вялікая шкода для Беларускага Руху і Беларускага Народу. Далей немагчыма трываць у гэт'кім палажэньню. Дык мы зварочуемся із заклікам да ўсіх Беларусаў:

1) прысылаць падпіску на „Народ",
2) зьбіраць ахвяры на фонд „Народу".
3) даваць штомесячнаю складку на фонд „Народу".

Тыя, што будуць даваць штомесячнаю складку на фонд „Народу" або хто балей за адзін раз дасьць,—будуць лічыцца паўнапраўнымі сябрамі-сувыдаўцамі і ад іх будзе залежыць рэдагаваньпе „Народу".

---

# Што дзеіцца у сьвеце?

**Землетрасеньне ў Туркестане.**

2-мая ў Туркестане было землетрасеньне. Траха ўсе асяродкі пацярпелі. У Асхабадзе заліло каля сту будынкаў. Места Гермаб чыста зьністожана.

**200 арыштаваных у Мадрыце.**

Наказуюць з Мадрыту (сталіца Гішпаніі), што тамака выкрыты сьпісак проці дыктатуры. Арыштавана звыш 200 чал.

**Проці косаў.**

Хінскі ўрад забараніў Хінцом насіць косы. Ведама, ад гэтага Хінцы ня стануць ані культурнейшымі ані разумнейшымі.

---

# Голад у Віленшчыне.

Даўно ўжо ведама, што з прычыны неўраджаю ў паўночна-ўсходніх паветах Віленшчыны настаў голад. На жаль галадаючыя надта мала дастаюць помачы.

Нядаўна віцэ-вайвода віленскі Кірцікліс зрабіў рэфарат у Варшаве аб палажэньню ў Віленшчыне, каторым пацьвярдзіў з урадовага боку тое, што было й дагэтуль ведама грамадзянству.

Пан віцэ-вайвода сказаў, што Віленскае вайводзтва ў цяперашніх сваіх граніцах ня мае адухі.

Голад у Віленшчыне абняў 140 тысячаў чал. Страты ад неўраджаю ў Віленскім вайводзтве роўны 150 міл. зал., а калі зьвярнуць увагу, што у Віленскім вайводзтве ніколі не ставала свае еміны і заўсёды, навет у прадваенных гадох прывозілася збожжа, дык ясна будзе якая цяперака вялікая катастрова. Асыгнаванай дагэтуль сумы 2 міл. 100 тыс. зал. (у гэтаю суму ўходзіць і грамадзкая помач). Ад 10 г. мес. ўлада ня можа здаволіць найважнейшых патрэбаў галадаючага насяленьня...

Тымчасам голад, позьняя вясна і зьністожаньне ад цяжкой зімы ёсьць прычынай зрываньня стрэхаў на корм жывёле, выпродаваньня жывёлы і навет самаўбійстваў. Гэтая вялікая катастрофа голаду мусіць адбіцца на мястох і местачках Віленшчыны, на прамысьле й гандлю гэтага вайводзтва. Із 750 крамаў ля 14 вуліцаў Вільні у вапошнім часе зачынілася 164. У 1924 г. прамысловых сьвядоцтваў (патэнтаў) 1-ае катэгорыі куплена ў Вільні 47, у 1928 г. толькі 29, прамысловых сьвядоцтваў 2-ое кат. у 1924 г. 1085, а ў 1928 г. толькі 768. У гэткіх-жа адносінах ёсьць сьвядоцтвы іншых катэгорыеў. У лістападзе 1928 г. колькасьць протэставаных вэксалёў была 8462, а ў студні 10321. Колькасьць работнікаў запісаных ў Урадах Грамадзкой Апекі віленскага вайводзтва на выезд у Францыю (трэйчы) перавышыла патрэбу.

---

# З ПОЛЬШЧЫ.

**Надзвычайныя 10 процэнтаў да падаткаў.**

Міністэрства скарбу загадала, каб у часе ад 1-га красавіка 1929 г. да 31-га сакавіка 1930 г. быў браны надзвычайны падатак у вышыні 10 проц. да плачаных у гэтым часе падаткаў беспасярэдніх, падаткаў пасярэдніх, штэмплёвых платаў, падатку спадкавага і ад даравізнаў, а таксама да плачаных ці прынукаю спаганяных падаткавых залегласьцеў.

Гэты надзвычайны прыдатак ня будзе браны ад падатку з даходу, ад пэнсыі, ад падатку гасподняга (кватэрнага), незабудаваных пляцаў, падатку маемаснага і лясной дані.

Як бачым, міністэрства ня слухае радаў Д'ювэевых у справе падаткаў. Затое, згодна з паглядам Д'ювэевым, маюць быць зьменшаны інвэстыцыйныя работы.

**Дымісыя ген. Мінкевіча.**

Камандзер корпусу абароны пагранічча, ген. Мінкевіч, здаў 7-га мая кароткі рапарт марш. Пілсудскаму, просьле чаго маршалак заявіў, што звальняе яго із займанага дагэтуль становішча. Пры гэтым маршалак заявіў, што хворма ўступленьня можа быць Мінкевічу крыху няпрыемнай, дзеля таго здаволіць яго тэкстам лісту да прэзэса рады міністраў.

Часова становішча камандзера корпуса абароны пагранічча заняў ґен. Орліч-Дрэшар.

---

# Новыя кніжкі.

— **Робінзон Крузо.** Выйшаў пабеларуску „Робінзон Крузо", вельмі цікаўная кніжка. Стар. 96 з 18-ма малюнкамі. Цана 1 зал. 70 гр.

— **Cham.** Выйшла друкам лацінскімі літарамі драма „Cham" А. Арэшчыхі. Стар. 61, цана 70 гр. Чытары часта пыталіся гэтай кніжкі. Цяпер яны могуць здаволіць сваё жаданьне.

— **Новая Зямля.** Вийшла трэйцяя (і яна-ж апошняя) кніжка „Новае Зямлі", поэмы Якуба Коласа. Стар. 112, цана 1 зал. 50 гр. Раней яшчэ выйшлі „*Новая Зямля*" кн. 2-ая, стар. 64, цана 80 гр. і „*Новая Зямля*" кн. 1-ая стар. 126, цана 1 зал. 50 гр. Дык разам усе тры кніжкі „Новае Зямлі" каштуюць 3 зал. 80 гр.

Усе вышменаваныя кніжкі можна купляць у беларускіх кнігарнях у **Вільні**, **Лідзе** (Замковая 8), **Валожыне** (Рынак 27), **Маладэчне** (Замкавая 23), **Ашмяне** (Альшанская 3) і іншых.

---

# Аб Беларусах (Крывічох) у чужой мове.

— *Peregrinus*, Dusza ludu białoruskiego (доймы з быцьця ля Вішнеўскага возера) у N 62 зь 15. III. сёл. і наступных нумарох „Kurjera Wileńsk'aha". У гэтай стацьці разглядаюцца беларускія песьні.

— *Sulima*. Wiosenno-wielkanocne obrzędy ludu białoruskiego ў N 75 сёл. г. „Kur. Wileńsk'aha",—глыбака апрацаваная стацьця зь філёзофічным падыходам да беларускага народнага сьветапагляду.

— *Privatissimus*, Unja w przeszłości i przyszłości (у № 7—8 9 і 10 „Przeglądu Wilensk'aha". Аўтар ведамы беларускі публіцысты й філёзоф—лічыць шкоднай усялякаю польскаю а так сама й маскоўскаю прапаганду рэлігійнаю ў Беларусі, але ўважае неабходным такое злучэньне Беларусаў-каталікоў із Беларусамі праваслаўнымі, каторае-бы адділіла ўсялякія чужыя — польскія й маскоўскія ўплывы ў Беларусі на грунце рэлігійным.

---

*Браты Беларусы, пашырайце сваю беларускаю газэту „НАРОД"!*

Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ", Сьвята Ігнатаўская вул. №5. Рэдактар Б. Станкевіч.